# Аб'ектыў

ліпень 2007

299 - гэта важна...

Небяспечна быць журналістам

Маніпуляцыя грамадзкай сьвядомасьцю

Правальны праект пад назвай "Русіфікацыя"

## 07.07.07
## ДЕНЬ ПАМЯТИ
## О ДМИТРИИ ЗАВАДСКОМ

7 лет прошло с тех пор, как в Минске, в аэропорту Минск-2, при невыясненных обстоятельствах был похищен оператор ОРТ Дмитрий Завадский.

7 лет …

Много это или мало?…

Для кого-то 7 лет жизни – это мгновение, а для кого-то – вечность.

Наверное, для близких Дмитрия Завадского эти 7 лет и были той вечностью. Вечностью боли и страданий. Борьбы. Слёз. Бесконечного ожидания. Когда проходишь путь от надежды до отчаяния, от веры до безверия, от страха до бесстрашия.

И самое страшное, что никто не может сегодня сказать – сколько ещё времени должно пройти, чтобы мы узнали ВСЮ правду о насильственном похищении Дмитрия Завадского.

Сколько еще нужно написать жалоб, организовать пикетов, цепей неравнодушных людей, чтобы власти Беларуси поняли, что судьба Дмитрия волнует многих. И если кто-то думает, что время «лечит», а память вещь короткая, то они ошибаются.

Всё, что мы сегодня можем сделать для Димы и его семьи – это ПОМНИТЬ о нём. И сколько бы не прошло времени, он должен жить в сердцах тех, кто его знал и любил.

Дмитрий – «скромный глаз эпохи», - так написала о нём одна журналистка. Благодаря объективу своей телекамеры, он стал свидетелем всех важных событий, которые, происходили в Беларуси, начиная с 1994 года, и его судьба сегодня олицетворяет судьбу его любимой Беларуси.

Хочется верить, что когда Беларусь, наконец, обретёт своё место на карте мира, как демократическая страна, где уважают законы и права человека, то и судьба Дмитрия обретёт свою определённость, и не будет больше тайны его исчезновения, а главное – будут наказаны настоящие виновные в его похищении.

Когда Диму похитили, ему было всего 28 лет. Он был красивым, добрым, талантливым и интеллигентным человеком, который еще так много мог сделать для своей Беларуси...

ДИМА – МЫ ПОМНИМ О ТЕБЕ, И НАМ ТЕБЯ ОЧЕНЬ СИЛЬНО НЕ ХВАТАЕТ.



# МАНІПУЛЯЦЫЯ
## ГРАМАДЗКАЙ СЬВЯДОМАСЬЦЮ

З канца XX стагодзьдзя, на зусім не падрыхтаванае, як на маю думку, грамадзтва, абрынуліся лавіны інфармацыі. Яны выліваліся адусюль: газэтаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізара. Давяршыў працэс "пахаваньня" – інтэрнэт, што дастаткова нахабна ўварваўся ў наш штодзённы побыт. Дасьледчыкі, якім выпадала займацца наяўным фэномэнам, ахрысьцілі яго "інфармацыйным векам", постіндустрыяльным грамадзтвам.

Яшчэ Вялікая Француская рэвалюцыя, вуснамі мэру Парыжу ў 1789 годзе, агучыла асноўны для нас прынцып: "Публічнасьць – ва ўсе сфэры жыцьця". Рэвалюцыянэры, як сьведчыць гісторыя, ня кідалі тады словы на вецер. Публічнасьць пакрысе пачала ўваходзіць у дамы простых буржуа з ростам колькасьці газэтаў, зьніжэньнем іхняга кошту. Працэс падыйшоў да свайго лягічнага завяршаньня са зьяўленьнем такіх монстраў, як сродкі масавай інфармацыі – сродкі масавай камунікацыі.

Падавалася б, чаго яшчэ трэба да ідэалу ўтапічнага шчасьця: радыё, тэлевізар, пэрсанальны кампутар – і можна будаваць сапраўдную дэмакратыю. Вось толькі з набыцьцём усёй гэтай апаратуры мы ўпусьцілі да сябе Траянскага каня з выцякаючымі адсюль наступствамі.

Лавіны інфармацыі сталі такімі агромістымі, што маленечкая навіна канчаткова згубілася ў ёй. А нам, прынамсі, патрэбна менавіта яна. І вось тут СМІ прыходзяць на дапамогу. Быццам бы... Яны бяруць на сябе адказнасьць выбіраць тое, што нам неабходна. Вырашаюць за нас, што сэнсацыя, а што так, непатрэбнае сьмецьце. Яны вырашаюць, а мы па вынайдзеных імі законах жывем, упэўненыя ў нейкай там свабодзе прыняцьця намі рашэньняў.

Такі амэрыканскі дасьледчык масавых сродкаў камунікацыі, як М. Маклюэн у сваёй працы "Разуменьне мэдыя: зьнешние пашырэньне чалавека" кажа аб тэлевізіі як "мазаічнай" зьяве, падзяляючы ў ёй візуальную дарожку й гукавое суправаджэньне. Давайце крыху паразважаем у гэтай сувязі: а што будзе, калі дарожкі перамяшаць? Ну, напрыклад, да адной перадачы паставіць зусім іншае гукавое суправаджэньне? А што, напрыклад, будзе, калі выкарыстаць такі сродак, як мантаж і згуляць візуальнымі параўнаньнямі на пачуцьцях чалавека? Эйзейнштэйн у свім знакамітым фільме "№ Кастрычнік" параўнаў бойню ў Адэсе, ахвярамі якой сталі рэвалюцыянэры й просты народ, з скатабойняй. Эфэкт уражваў. Тагачасным неспакушаным гледачам пад час прагляду рабілася кепска. Яшчэ адзін прыклад – кадры беларускіх апазыцыянэраў, засьнятых на нейкім мітынгу, супрацьпаставіць іншым візуальным шэрагам з маршыруючымі фашыстоўцамі. Відавочнае маніпуляваньне. Варта толькі паказаць такі ролік па нацыянальным тэлебачаньні перад будучымі прэзыдэнцкімі выбарамі, й ніякіх фальсіфікацыяў на выбарах ня трэба. Народ прагаласуе як трэба.

Працягваючы тэму маніпуляваньня намі нацыянальным беларускім тэлебачаньнем хацелася б прыгадаць артыкул выкладчыцы Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту спадарыні Альміры Ўсманавай, што быў апублікаваны ў "Топасе": "*Интересно, что БТ пытается визуализировать гомогенность и одновременно бесклассовый характер белорусского «народа» посредством блиц-интервью: на экране мелькают лица пожилых и молодых, семейных и одиноких, сельских жителей и горожан, но кто бы они ни были – в смонтированной версии они предстают как монолитный и единый в своих суждениях «народ», опора и гарант легитимности действующей власти. И уже не только официальные СМИ, но и сам «народ» знает, кто теперь является его «врагом». Так что благодаря слову «народ» мы имеем дело с весьма специфическим способом представительства: масс-медийная репрезентация подменяет собой, или, точнее, узаконивает «репрезентацию» политическую.*"

"Траянскі конь" ужо даўно тут. Спосабы маніпуляцыі намі – практыка штодзённая. Нічога тут не папішаш. Адзінае, што мы можам зрабіць: супрацьпаставіць элітарнасьць – масавасьці, бяздумнасьць – інтэлекту. Не маніпуляваць іншымі й прысякаць такія спробы ў дачыненьні да сябе.

***Куўшынава Вольга***



# Небяспечна быць журналістам





Па дадзеных Сусветнай газетнай асацыяцыі (WAN) пачынальна з 1 студзеня 2007 года, у свеце ўжо загінулі 75 супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі.

Самая вялікая колькасць журналістаў загінула ў Іраку (35), дзе прадстаўнікі прэсы працягваюць заставацца мішэнямі і рызыкаваць жыццём. Улічваючы, што летась у свеце загінула 110 журналістаў, робячы 2006 год самым смяротным за ўсю гісторыю назіранняў, але па тэндэнцыі назіранняў да жніўня мінулага года колькасць загінуўшых журналістаў была значна менш, чым сёлета. Па гэтых прычынах ёсць высnова рабіць прагноз, што 2007 год можа стаць яшчэ больш крывавым, чым папярэдні.

Сёння займацца журналістыкай небяспечней, чым калі-небудзь. За апошнія дзесяць гадоў былі забітыя больш за 1000 журналістаў – часцей усяго толькі за тое, што яны рабілі сваю працу. Гэтыя забойствы з'яўляюцца замерам не толькі на пэўных асобаў, але і цалкам на грамадства. Між тым, толькі нешматлікія злачынцы паўстаюць перад правасуддзем. Так па дадзеных Міжнароднай федэрацыі журналістаў толькі ў 27 выпадках з 1000 забойцы журналістаў былі пакараныя.

Журналісты ў Іраку рызыкуюць ня толькі з-за таго, што працуюць у зоне ваенных дзеянняў. На іх палююць, іх забіваюць проста таму, што падазраюць у супрацоўніцтве з заходнімі навінавымі агенцтвамі, з-за рэлігійных і палітычных поглядаў, і проста таму, што іх забойцы лічаць: забіваючы журналістаў, яны змогуць наблізіцца да дасягнення сваіх мэт.

Філіпіны, Мексіка, Пакістан кожны год папаўняюць журботны спіс загінуўшых журналістаў, дзе крымінальныя групоўкі і карумпаваныя палітыкі ўжо даўно не асцерагаючыся быць прыцягнутымі да адказу, пераследуюць і забіваюць журналістаў якія займаюцца расследаваннямі.



Расея так сама знаходзіцца ў спісе небяспечных краін сьвету, дзе пагоршылася становішча са свабодай слова. Расея зараз стаіць ў адным шэрагу з такімі краінамі як Эфіопія, Гамбія, Рэспубліка Конга, Куба і іншыя. Даследчыкі адзначаюць жахлівыя факты беспакаранасці забойстваў журналістаў. Так, у Расеі ў перыяд с 2002 па 2007 гады былі забітыя 11 журналістаў.

Маніторынгам забойстваў журналістаў у свеце займаюцца некалькі праваабарончых арганізацый. Іх дадзеныя могуць трохі не супадаць з-за разыходжання крытэраў, выкарыстоўваемых рознымі асацыяцыямі. Адны ўлічваюць забойствы ўсіх супрацоўнікаў медыя, звязаныя з іх прафесійнай дзейнасцю. Іншыя, такія як Сусветная газетная асацыяцыя (WAN), таксама ўлічвае выпадкі, у якіх матыў забойства невядомы, або па якіх яшчэ не было завершанае расследаванне. Але ўсё пагаджаюцца ў адным: тэндэнцыя росту ў свеце забойстваў журналістаў становіцца вельмі небяспечнай і прычына таму – беспакаранасць злачынцаў. А найбольш важнай прычынай, аднака, з'яўляецца атсутнасць на ўладзе палітычнай волі да абароны журналістаў і свабоды слова.

І каб гэта ўбачыць ня трэба хадзіць далёка за прыкладам. У Беларусі з 2000 па 2005 годы былі забітыя тры незалежныя журналісты. Хтосьці скажа: не так і шмат. Але не па адным з выпадкаў злачынцы не былі пакараныя за забойства журналіста...

***Юлія Рудкая***



# Імёны Свабоды: Вераніка Чаркасава





Прафэсія журналіста – адна з самых небясьпечных у сьвеце. Магчыма, супрацоўнікі "Советской Белоруссии" або БТ (дарма што ня раз закіданыя ў сакавіку сьнежкамі) і сумняюцца ў гэтай ісьціне. Незалежная ж айчынная журналістыка цягам апошніх гадоў нясе цяжкія страты – зьнікаюць і гінуць самыя сьмелыя, таленавітыя, непадкупныя: Зьміцер Завадзкі, Васіль Гроднікаў, Вераніка Чаркасава...

Я ня быў блізка знаёмы зь ёю, але за некалькі тыдняў да зьверскага забойства Веранікі яна брала ў мяне інтэрвію пра беларуска-расейскія дачыненьні ў Сярэднявеччы. (Дагэтуль памятаю яе дакладныя й не заўсёды "камфортныя" пытаньні, зьвязаныя, скажам, зь нязводнай вераю часткі нашых продкаў у добрага маскоўскага цара.) Мой нумар тэлефону знайшлі ў яе ў нататніку, і неўзабаве я апынуўся на допыце.



Сьледчы пацікавіўся маёй вэрсіяй трагедыі. "Мяркую, што прычына забойства – прафэсійная дзейнасьць", – адказаў я. "Напрыклад?" "Напрыклад, публікацыі кшталту "КГБ усё яшчэ сочыць за табой".

Сьледчы абурана ўскочыў з крэсла і забегаў па кабінэце, пераконваючы мяне, што такая вэрсія – абсалютнае глупства, а ў наяўнасьці – самы банальны крымінал, які вельмі хутка будзе імі раскрыты.

Вярнуўшыся дадому, я зьняў з паліцы тэчку з публікацыямі Чаркасавай і паспрабаваў сфармуляваць адказ на пытаньне, што змушала мяне рабіць гэтыя выразкі і інтэрнэт-раздрукоўкі. Яе тэксты ня проста заўсёды пазнаваліся, дзякуючы свайму непаўторнаму стылю, падсьветленаму вытанчаным пачуцьцём гумару. Сабраныя разам, яны ператвараліся ў своеасаблівы гіпэртэкст, дзе адлюстравалася ўся наша найноўшая гісторыя – зь яе трагедыямі, камэдыямі і трагікамэдыямі, зь яе перамогамі, трансфармаванымі ў паразы, і паразамі, якія дзіўным чынам запальвалі сьвятло ў канцы тунэлю...

Яе героямі былі дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Сяргей Навумчык, вядомы ўва ўсім сьвеце беларускі мастак зь Беласточчыны Лёнік Тарасэвіч, лідэр рок-гурту "Neura Dubel" Аляксандар Кулінковіч, геніяльны майстар Сьцяпан Яфімчык, які стварыў адзіны на плянэце цалкам драўляны, прычым "жывы", а не дэкаратыўны гадзіньнік...

У адным з апошніх сваіх эсэ – "Чырвоным па беламу" – Вераніка пісала пра лёс нашага нацыянальнага сьцяга. У прыватнасьці – пра паталягічную нянавісьць да яго з боку цяперашняга рэжыму, што выявілася ў паводзінах колішняга прэзыдэнцкага заўхоза Івана Ціцянкова, які пасьля рэфэрэндуму 1995 года па-нэандэртальску рваў галоўны сымбаль дзяржавы на шматкі, пакідаючы на іх аўтографы. Нягледзячы на ўсю горыч, фінал тэксту зусім ня дыхаў безнадзейнасьцю: "Тое, што склалася цягам стагодзьдзяў, усё роўна будзе прарастаць у народзе знутры, як упарта цягнуцца да сонца каласы жыта на даўно забытым палетку. І змагацца за свабоду і незалежнасьць ідуць пад сьцягам, за які паміралі продкі, бо ён — як намоленая ікона, якая вякамі зьбірала ў сябе надзею і любоў народу". Менавіта гэтае эсэ дало назву кнізе выбраных тэкстаў Веранікі, выдадзенай сябрамі праз год пасьля яе сьмерці.

...Нядаўна я сустрэў сьледчага, што так непахісна верыў у крымінальную вэрсію забойства. Як прафэсіянал, ён відавочна пазнаў мяне, а таму адно паскорыў крок...

***Уладзімер Арлоў***



# Імёны Свабоды: Васіль Гроднікаў



Ягоныя публікацыі абмяркоўвалі ў курылках і ў тралейбусах. Аднойчы я сам быў сьведкам і ўдзельнікам такой дыскусіі і з гэтае прычыны праехаў некалькі лішніх прыпынкаў. Артыкул называўся "Абрэць на Беларусь, або Пра што мы гаварылі з прэзыдэнтам у маёй хаце з вока на вока".

А гаварылі яны пра тое, што за апошнія дзесяць гадоў Беларусь ператварылася ў краіну анамальных зьяваў — ад становішча з мовай да зьдзеку зь вясковых жыхароў, якія ў XXI стагодзьдзі нярэдка вымушаныя жыць амаль у сярэднявечных умовах. Размова аўтара з прэзыдэнтам была віртуальнай, але я не сумняюся, што гэты барадач з пранклівымі мудрымі вачыма адкрыта сказаў бы прэзыдэнту пра ўсё набалелае і ў рэальнасьці. Хтосьці, пераадолеўшы пэнсійны рубеж, дае сабе адпачынак і засяроджваецца на клопатах, зьвязаных зь лецішчам. Магчыма, такі намер меў і колішні журналіст "Чырвонай зьмены" і галоўны рэдактар кінастудыі "Летапіс" Васіль Гроднікаў. Сваімі рукамі ён адбудаваў двухпавярховы дом у вёсцы з калярытнай назваю Мазалі на Маладэчаншчыне. Здавалася б, можна набыць "Каляндар садавода і агароднікa" й жыць у сваё задавальненьне. Але тое, што чынілася ў краіне, зноў змусіла Васіля ўзяцца за пяро. На старонках "Народнай волі" пачалі адзін за адным зьяўляцца ягоныя вострыя, аналітычныя, з адрасу пазнавальнымі стылем і мовай артыкулы. Найлепшыя зь іх — "Грахі нашы цяжкія", "Асьцярожна: пятая калёна", ужо згаданая "Абрэць на Беларусь" былі публіцыстыкай высокай пробы.

Да Гроднікава прыйшло магутнае "другое дыханьне", якое прынесла вядомасьць і ўвагу — як прыхільнікаў і аднадумцаў, так і тых, для каго Беларусь была не радзімай, а толькі тэрыторыяй, дзе яны пакуль адчувалі сябе беспакарана. Родны Васілёў брат пісьменьнік Мікола Гроднеў (розьніца ў прозьвішчах — вынік памылкі п'янага сельсаветаўскага пісарчука) згадвае, што ягоны сусед па лецішчы літаратуразнавец Дзьмітры Бугаёў неяк сказаў: "Як гэта твой Васіль так сьмела піша? Яго ж забіць могуць". Пачуўшы братаў аповед, Гроднікаў толькі засьмяяўся.

Яго знайшлі дома мёртвым. На сьценах і падлозе налічылі дзевятнаццаць крывавых плямаў. Сьледзтва прыйшло да высновы, што сьмерць была выпадковай, і крымінальную справу хутка закрылі. Цікава, што ў падтрымку афіцыйнай вэрсіі гібелі журналіста матэрыял пад назваю "Роковой угол падения" зьмясьціла "Советская Белоруссия".

Разгортваючы сьвежы нумар "Народнай волі", я часам лаўлю сябе на думцы, што шукаю Васілёў матэрыял. Яго адметнага мужнага голасу не хапае многім.

***Уладзімер Арлоў***

Узнагароды



## Паўлу Севярынцу ўручылі літаратурную прэмію імя А. Адамовіча

На пачатку года вядомаму беларускаму публіцысту, грамадзкаму дзеячу і палітвязьню Паўлу Севярынцу была ўручаная прэмія беларускага ПЭН-цэнтру імя Алеся Адамовіча за 2007 год. Павал ганараваны ёю за цыкл эсэ "Лісты зь лесу". Урачыстасьці адбыліся ў вёсцы Малое Сітна Полацкага раёну, дзе ляўрэат адбываў так званую "хімію".

Калі ў іншых краінах ПЭН-цэнтраўскія прэміі ўручаюць у лепшых сталічных залях, у прысутнасьці літаратурнага да палітычнага бамонду, дык у беларускіх умовах імпрэза адбывалася ў глухой вёсцы Малое Сітна, у сьценах спэцпітэрнату, дзе жыў на высланьні сёлетні ляўрэат, палітык і публіцыст Павал Севярынец.

# "Наша Ніва" і "CD-mag" сталі лаўрэатамі прэміі фундацыі нямецкай газеты Die Zeit

Беларускамоўная, незалежная грамадска-палітычная газета "Наша Ніва" і незарэгістраваны моладзевы часопіс на кампактных дысках "CD-mag" сталі пераможцамі прэміі імя Герда Буцэрыуса "Маладая прэса Ўсходняй Эўропы" за 2006 год.

Акрамя беларускіх выданьняў лаўрэатамі прэміі сталі таксама журналісты з Расіі і Азербайджану.

Прэмія была заснавана Фундацыяй "Цайт-Штіфтунг" у 1999 годзе і ўручаецца журналістам і газетам краін пераходнага перыяду Ўсходняй Эўропы, якія выступаюць у сваёй працы за свабоду слова і развіцьцё дэмакратыі.

"Наша Ніва" была вылучана на прэмію грамадскім аб'яднаннем «Беларуская асацыяцыя журналістаў», свае рэкамэндацыі далучылі таксама Нарвежскі Хельсінскі камітэт, Нарвежскі ПЭН-цэнтр, фундацыі арганізацыі "Human Rights House".

Ушанаванне пераможцаў адбылося ў чэрвені 2007 года ў Осла.

Раней лаўрэатамі прэміі станавіліся такія беларускія выданні як: "Белорусская деловая газета", "Свободные новости", "Белорусский рынок", "Салідарнасць", рэгіянальныя газеты: "Витебский курьер", "Брестский курьер", "Intex-press" (г.Баранавічы), інфармацыйнае агенцтва БелаПАН і беларускія журналісты Сьвятлана Калінкіна і Мікола Маркевіч.




# Прыз 2006 году "За Найлепшае Асьвятленьне Гарачых Навінаў" – Беларускай службе

На прыканцы мінулага года Беларуская служба Радыё Свабода (www.svaboda.org) атрымала галоўны прыз Радыё Свабода/Радыё Свободная Эўропа за найлепшае асьвятленьне гарачых навінаў.

Прафэсійная праца карэспандэнтаў Свабоды ў Беларусі і Празе пад час прэзыдэнцкіх выбараў і масавых пратэстаў у Менску у сакавіку 2006 году прызнана ўзорнай. У пастанове журы адзначаецца высока каардынаваная і эфэктыўная каманд-ная праца, выкарыстаньне Інтэрнэту і радыё ў якасьці асобных мэдыя плятформаў для аўдыё, відэа і тэксту кругласутачна ў рэжыме рэальнага часу, апэратыўнасьць, дакладнасьць і шырокі інфармацыйны спэктар асьвятленьня падзеяў.

Прыз Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, якім адзначаюцца журналісцкія навацыі і выдатная праца, ўручаецца штогод. У спаборніцтве ўдзельнічаюць 20 рэдакцыяў, якія вяшчаюць і публікуюць тэксты на 29 мовах, і маюць разам больш за тысячу гадзінаў з вяшчаньня на тыдзень для аўдыторыі 35 мільёнаў чалавек у краінах Эўропы, Цэнтральнай і Паўднёвай Азіі і Блізкага Ўсходу.

# Ёсіф Сярэдзіч атрымаў прэмію "За адданасць прынцыпам свабоды слова"

Ва Ўсясьветны дзень свабоды друку, які адзначаецца 3 траўня, галоўны рэдактар незалежнай грамадзка-палітычнай газэты "Народная воля" Ёсіф Сярэдзіч названы ляўрэатам Ганаровага дыплёма імя І. Герменчука "За адданасьць прынцыпам свабоды слова" ў 2007 годзе.

Ігар Герменчук і Ёсіф Сярэдзіч разам працавалі ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня. Былі аўтарамі законапраекту Закону аб друку. Газэта Ігара Герменчука "Свабода" мела наклад звыш 100 тысяч асобнікаў, "Народная воля" Ёсіфа Сярэдзіча на сёньня найбольш масавая сярод апазыцыйных выданьняў.



# Прэмію “Залатая літара” атрымаў пісьменьнік Уладзімер Арлоў



У Дзень Волі, 25 сакавіка, вядомы пісьменьнік і гісторык Уладзімер Арлоў атрымаў прэмію “Залатая літара”за 2006 год.

Чацьверты год заснавальнік узнагароды, пісьменьнік Адам Глёбус, уручае літаратурную прэмію за найлепшую кніжку году менавіта на Дзень Волі.

Пад час уручэньня прэміі Адам Глёбус распавёў: “Самая вартая кандыдатура на званьне народнага пісьменьніка — Уладзімер Арлоў. Кнігу вершаў Арлова “Паром праз Ля-Манш” я прачытаў з прыемнасьцю. Таму сваю “Залатую літару — 2006” я ахвярую Ўладзімеру Арлову”.

# Андрэй Дынько – сярод ляўрэатаў міжнароднай прэміі Лёрэнца Наталі



Андрэй Дынько, у мінулым галоўны рэдактар газеты "Наша Ніва", а зараз рэдактар сайту nn.by стаў ляўрэатам прэміі імя Лёрэнца Наталі за 2006 год.

Гэта міжнародная ўзнагарода для пішучых журналістаў з усяго сьвету. Прэмія прысуджаецца за артыкул, напісаны цягам мінулага году, які чапляе праблемы абароны дэмакратыі і правоў чалавека. Дынько стаў першым у гісторыі прэміі цэнтральнаэўрапейскім журналістам уганараваным ёю.

Андрэй Дынько быў намінаваны за ягоны акрэсьцінскі дзёньнік. Ён напісаў яго ў сакавіку 2006 году і перадаў на волю. Твор быў апублікаваны ў “Нашай Ніве” яшчэ да таго, як Дынько выйшаў на свабоду. Пад загалоўкам “Тэрапія ахвярнасьцю. Ліст зь менскай турмы” яго пераклалі на восем эўрапейскіх моваў.

Па традыцыі цырымонія ўзнагароджаньня намінантаў адбылася ў прэс-цэнтры Эўракамісіі ў Брусэлі, у рамках сьвяткаваньня Дня свабоды прэсы.

Гэта чацьвертая міжнародная прэмія Андрэя Дынько. Але ён лічыць, што мінавіта яна пасвойму найдаражэйшая, бо адзначае не працу яго як рэдактара, а даецца за канкрэтны твор.

# Сталі вядомыя ляўрыяты прэміі імя Зьмітра Завадскага

15 жніўня сталі вядомы імёны журналістаў, якія ў гэтым годзе атрымаюць прэстыжную журналіцкую прэмію імя Зьмітра Завадскага “За мужнасьць і прафэсыяналізм”. Ляўрэатамі сталі: Генадзь Барбарыч (газэта “Белорусы и рынок”), Анатоль Гатоўчыц (БелаПАН, “Народная воля”, Гомель) і Натальля Макушына (радыёжурналіст, Гародня).

Прэмія зьвяляецца ўзнагародай за прафэсыйную мужнасьць і барацьбу за свабоду слова.

Прэмія была заснаваная ў 2001 годзе, праз год пасьля выкраданьня ў Менску беларускага апэратара Зьмітра Завадскага, па ініцыятыве журналістаў Першага каналу (Расея), якія працавалі са Зьмітром, паважалі і любілі яго. Журналісты прапанавалі кожны год уручаць прэмію за мужнасьць і прафэсыяналізм беларускім журналістам. Гэтую ідэю падтрымалі гэнэральны дырэктар тэлеканалу Канстанцін Эрнст і Беларуская асацыяцыя журналістаў. За мінулыя гады прайшло пяць цэрэмоніяў узнагароджваньня. Прэмія была ўручаная 20 лепшым беларускім журналістам, апэратарам, фотакарэспандэнтам і незалежным выданьням. У 2006 годзе да прэміі далучылася заснаваная напрыканцы 2005 году Фундацыя імя Зьмітра Завадскага, якая заснавала грашовае ўзнагароджаньне лепшым беларускім журналістам.



У гэтым годзе адбудзецца шостая цырымонія ўручэньня Прэміі імя Зьмітра Завадскага.

Ігар Казмерчак

# 299 – гэта важна...



Новых незалежных выданняў у нашай краіне не рэгістравалі ўжо даўно. Тыя газэты, якія яшчэ не згубілі рэгістрацыі, выходзяць так, каб з аднаго боку сказаць праўду, пакрытыкаваць улады, з іншага боку так, каб пакрытыкаваць, але пасля яшчэ мець магчымасць выдавацца. У выніку, пераўтвараюцца яны ў даволі асцярожных апанентаў улады. Гэта іхнае права. Больш за тое, абвінавачваць кагосці ў "асцярожнасці" рэч няўдзячная. Але праблема відавочная: наклад гэтых газэтаў не павялічваецца, і новую аўдыторыю яны не прываблівають. У асноўным, чытаюць гэтыя выданні тыя, каго агітаваць ужо ня трэба. А што ж рабіць з тымі, хто і чакае для сябе агітацыі, але ня можа яе знайсці, тыя для каго цяжкая аналітыка ў сур'ёзнай прэсе з'яўляецца цяжка чытабельнай і не цікавай?




Такім людзям трэба даць іхную газэту пра праблемы якія іх цікавяць. Калі ім не цікава чытаць пра гістарычную важнасць кангрэсу дэмакратычных сіл, але цікава ведаць, што адбываецца ў іхным канкрэтным горадзе – яны маюць права атрымаць гэтую інфармацыю.

Само сабой зарэгістраваць новыя газэты будзе немагчыма. Але з іншага боку адсутнасьць рэгістрацыі значна развязвае рукі. Няма рэгістрацыі – няма чаго адбіраць. А значыць няма чаго баяцца. На шчасце, пакуль, яшчэ, па законе, ёсьць магчымасць указваць у выходных дадзеных "299 ас." і пісаць на любыя тэмы якія цікаваць людзей.

Гэта тое, што называецца – малыя бюлетэні. Канешне, яны не складуць канкурэнцыі газэтам з 2000-10000 накладамі. Але такія выданні могуць значна паспрыяць справе знішчэння дзяржаўнай манаполіі на прэсу.

У кожным раёне краіны выдаюцца нізкаякасныя "раёнкі". І хаця іхны аўтарытэт сярод насельніцтва невялікі, але, калі чалавек хоча ведаць навіны свайго рэгіёну, дык купіць менавіта раёнку, а не будзе шукаць незалежнай рэспубліканскай газэты. У той жа час як "свабодныя журналісты" прапанаваць такому чалавеку хутчэй за ўсё нічога не змогуць. У колькіх рэгіёнах выдаюцца мясцовыя бюлетэні? Дакладна, што не ва ўсіх.

А калі ўзяць чытачоў сыходзячы не з рэгіянальнага падзелу, а падзелу па цікавасцях. Дык тут незалежная прэса прайграе поўнасцю. Практычна адсутнічаюць моладзевыя выданні, дзіцячыя і ўвогуле скіраваныя на нейкую канкрэтную аўдыторыю. Пры тым што улады такія газэты выдаюць.

І зразумела, што "Народная воля", або "Наша Ніва" ніколі не будуць станавіцца спецыялізаванымі выданнямі. Уявіце сабе спецвыпуск "Нашай Нівы" прысвечаны аматарам сабак, або іншапланецянам. Цяжкавата. Але калі ёсьць аматары сабак, дык павінна быць і іхная газэта. І лепш, каб яе выдавалі незалежныя журналісты, няхай сабе і 299.

Прыблізна ў 2000-2001 годзе такіх выданняў было сапраўды шмат. Практычна кожнае НДА спрабавала выдаваць нешта сваё. Нават выдаваўся беларускамоўны бюлетэнь для аматараў футболу. Найбольш запомніўся з таго часу бюлетэнь уфолагаў. Такая экзатычная тэма таксама знаходзіла свайго чытача. У некаторых гарадах – дзе зараз добра калі выдаецца хаця б адзін бюлетэнь – у тыя часы, бюлетэняў магло выдавацца адразу некалькі.

Куды ж яны падзеліся? Адказ просты – адсутнасьць падтрымкі прывяла да знікнення такіх бюлетэняў.

Але сёння зноў з'яўляюцца магчымасьці падтрымкі малых выданняў, што павінна прывесці да іхняга рэнесансу, а значыць і пашырэння вольнага слова сярод грамадзянаў. І не важна, што ў выходных дадзеных будзе напісана "299 ас."






# Маланакладныя выданні

Шмат каму з чытачоў даводзілася трымаць у руках выробленую самастойна друкаваную прадукцыю. Такая прадукцыя ў народзе атрымала назву "Самвыдат", бо для яе выдання не патрабуецца спецыяльнай друкарскай тэхнікі і часцей за ўсё яна выраблецца на прынтары ці ксераксе, а ў лепшым выпадку на рэзографе (такі свайго роду вялікі ксеракс, які валодае вялікай хуткасцю друку, крышку больш за стандартныя капіравальны апарат, вельмі моцна гудзіць і патрабуе шмат фарбы).

Маланакладныя выданні сталі сімвалам нашага часу, бо амаль уся незалежная прэса ў сучаснай Беларусі перажывае не самыя лепшыя часы: вялікая колькасць выданняў зачынена, іншыя выдалены з падпіснога каталогу і не распаўсюджваюцца праз сетку "Белсаюздрук", шмат хто мусіў самастойна адмовіцца ад грамадска-палітычных рубрыкаў дзеля свайго захавання і неабмяжоўваца крытыкай дзяржаўнай улады і яе курсу, іншыя змянілі фармат выдання і перайшлі ў віртуальную прастору.

"Самвыдаты" – гэта невялічкія маланакладныя выданні агульным накладам да 299 асобнікаў, друк, выраб і распаўсюд якіх азваляецца законам Рэспублікі Беларусь.

Маланакладнымі выданнямі балуюцца як правіла розныя моладзевыя грамадскія арганізацыі і ініцыятывы, партыйныя суполкі, розныя палітычныя ды грамадскія рухі. Гэта спосаб паказаць сябе, сваю дзейнасць, данесці нейкую пэўную інфармацыю да сваёй мэтавай групы, а маладым журналістам папрактыкавацца ў падрыхтоўцы матэрыялаў і спосабаў яго падачы. У сувязі з тым, што вялікі наклад любой незалежнай газеты працей адсачыць і канфіскаваць, часам яшчэ на стадыі вырабу або транспартацыі, пры гэтым нанёсшы вялікія страты выданню, маланакладным выданням гэта амаль не пагражае, калі яны выдадзены адпаведна закону Рэспублікі Беларусь і маюць адпаведныя выхадныя дадзеныя. Нават калі яны не выдадзены адпаведна




закону, і усё ж такі здарылася так што нумар не дайшоў да чытача з-за яскравай працы нашых спецслужбаў, амаль нічога не каштуе зрабіць яшчэ адзін такі самы нумар, толькі ва ўмовах большай канспірацыі.

Характэрнай рысай беларускіх самвыданняў з'яўляецца іх апазіцыйны характар. Я яшчэ не бачыў, каб БРСМ самастойна выробляў самвыдаты, але бачыў, як ён хацеў спрачыніцца да іх выпуску. Напрыклад, сябры БРСМ пажадалі каб ім прадастаўляліся плошчы для іх матэрыялаў ў незалежным студэнцкім бюлетэні "БУМ", які выходзіць у Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А.Куляшова, але атрымалі адназначную адмову ад галоўнага рэдактара бюлетэня і сябраў рэдкалегіі.

Закон Рэспублікі Беларусь рэгламентуе выдавецкую дзейнасць і дазваляе трымацца яго межаў у выпадку калі наклад не перавышае 299 асобнікаў (у часы СССР дазвалялася вырабляць толькі 12) і ёсць зваротныя дадзеныя, у якіх пазначана: хто галоўны рэдактар выдання і яго заснавальнік, дзе і на якім абсталяванні выраблена прадукцыя (хай то будзе партыйны ці арганізацыйны прынтар альбо ксеракса), пазначаны наклад, дата выхаду выдання і якаянебудзь кантактная адрэса (можна проста напісаць электронную пошту, альбо пакінуць нумар свайго тэлефону). А лепей усяго надбаць новы кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях і трымаць яго пад рукой.

***Ігар Казмерчак***

# Парады маладым журналістам па стварэнню самвыдата

У маланакладных выданнях функцыі галоўнага рэдактара і генеральнага дырэктара могуць быць сумешчаны. У выданнях афіцыйна зарэгістраваных такое бывае вельмі рэдка, бо адбываецца размежаванне функцый: галоўны рэдактар адказвае за творчую частку (падрыхтоўка артыкулаў, вызначэнне тэмаў артыкулаў, рубрык, дызайн выдання і г.д.), а генеральны дырэктар (яго часам называюць шэф-рэдактарам, выканаўчым дырэктарам, альбо проста дырэктарам) займаецца адміністратыўнымі функцыямі.

Для самвыдата неабходна некалькі пішучых журналістаў, карэктар, адказаны за распаўсюд і пажадана дызайнер, які будзе займацца вёрсткай, хаця некаторыя функцыі могуць выконваць адны і тыя ж людзі і ўсё залежыць толькі ад асабістых здольнасцяў і колькасці зацікаўленых у працэсе вырабу выдання чалавек.

Першым крокам збіраецца група людзей, якая выбірае сабе галоўнага рэдактара. Другі спосаб – гэта калі чалавек вызначыў што кіраваць працэсам будзе ён і набірае сабе адпаведную каманду з зацікаўленых асобаў. Астатнія, зацікаўленыя асобы, ўваходзяць у склад рэдакцыйнай калегіі і размяркоўваюць паміж сабой застаўшыяся функцыі. Дзеля таго каб не залежыць цалкам ад волі галоўнага рэдактара, рэдкалегіі пажадана распрацаваць і прыняць асабісты Статут, які бы рэгуляваў дзейнасць унутры выдання, у тым ліку вызначаў шляхі прыняцця рашэнняў.

Далей, створаную каманду неабходна адукаваць, бо непрафесіяналы – робяць не прафесійна. Людзі, якія будуць займацца надалей выдавецкай дзейнасцю павінны ведаць яе асновы ў тым ліку асновы напісання артыкулаў, падбору матэрыялу, яго распаўсюду і дызайну. Дапамагчы ў гэтым здолеюць разнастайныя грамадскія арганізацыі, якія зацікаўлены ў развіцці незалежнай беларускай прэсы. У якасці прыклада можа выступіць ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”. Можна пачаць вырабляць сваё выданне без адпаведнай падрыхтоўкі, але ў любым выпадку на першых парах якасцю яно вызначацца не будзе.

Для вёрсткі выдання існуе шэраг кампутарных праграмаў, такіх як “Індызайн”, “Корэл”, “Пэйджмэкер” і зразумела “Фоташоп”, без якога не абыйсціся пры апрацоўцы фотаздымкаў. На першых парах некаторыя карыстаюцца “Майкрасофт Ворд”, але з часам пасцягаюць вышэйузгаданыя праграмы і пазней усміхаюцца ўзгадваючы аб макетаванні выдання ў “Вордзе”.

Пры выданні часам выкарыстоўваецца вялікая колькасць матэрыялу з інтэрнэту і таму трэба быць вельмі карэктным і рабіць адпаведныя спасылкі на інтэрнэт-крыніцы, з якіх была ўзятая інфармацыя і трымацца журналісцкай этыкі.

Вельмі часта журналісты падпісваюць свае артыкулы псеўданімамі, таму можна скарыстацца і гэтай практыкай, тым больш што здымаецца частка адказнасці за свае матэрыялы.

Колькасць старонак, рубрыкі, перыядычнасць выхаду выдання вызначае рэдкалегія, адэкватна ацэньваючы пры гэтым свае сілы.

**ЯК НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ ЗАКОН**

Лозунгам ужо ўзгаданага ГА “БАЖ” з'яўляецца лозунг: “Трымайся праўды і не думай аб тым што будзе далей!”. Самае галоўнае, каб падаваемая інфармацыя была праўдзівай, у ёй не было абразы прэзідэнта, чыноўнікаў, дэпутатаў і простых грамадзян, не было заклікаў да нацыянальнай, рэлігійнай ды культурнай розні, бо гэта спаганяецца законам і журналіст, які пакрыўдзіў кагосьці і заклікаў да чагосьці можа атрымаць як штраф, так і некалькі гадоў пазбаўлення волі.

Наклад выдання мусіць не перавышаць 299 асобнікаў. У якасці выйсця можна друкаваць адзін і той самы нумар хоць 31 раз на месяц, але мяняць перыядычны нумар выдання, дату яго выхаду, можна каб не кідалася ў вочы змяняць назвы загалоўкаў і месцазнаходжання матэрыялу.

Распаўсюджваць выданне можна дзе заўгодна, але часам супрацоўнікі міліцыі ў нейкі момант адмаўляюцца разумець закон і пачынаюць слухаць загады вышэйстаячых начальнікаў і прапаноўваюць прайсці ў бліжэйшы пастарунак для праверкі наяўнасці выходных дадзеных, альбо для высвятлення асобы. Вынікі бываюць розныя – усё залежыць ад затрыманага і наколькі ён пераступіў закон. Калі ў яго ўсё адпавядае закону, то яго вызваляць вельмі хутка, даўшы адпаведную параду спыніць распаўсюд. Часы ў нас такія дзе над законам стаіць чыясьці воля, адразу скажу – гэта не воля народа.

Вось той мінімум ведаў які неабходны для самастойнага старту на шляху дасягнення мэты – вырабу самвыдата.

Поспехаў!

***Вітольд Няўрыда***

***Апошнім часам мы ўсё часцей чуем аб праблемах незалежных выданняў, але назвы некаторых з іх на жаль незнаёмы шматлікім чытачам. Часопіс пачынае цыкл артыкулаў, якія распавядуць аб беларускіх незалежных выданнях як зусім новых, так і даўно знаёмых.***

***Пакуль, амаль усе незалежныя выданні маюць невялікі наклад, але ў цяперашніх цяжкіх умовах беларускага інфармацыйнага вакууму – гэта амаль апошняя надзея мець альтэрнатыўную інфармацыю ў Беларусі.***

# "НАШ Магілёў" – новая незалежная дэмакратычная газэта

Вітольд Няўрыда

"Чытай то, што табе цікава!"
"НАШ Магілёў" - газэта на варце праўды!"

Рэдакцыя мясцовай незалежнай грамадзка-палітычнай газэты "НАШ Магілёў" была заснаваная ў кастрычніку 2006 года. З гэтага моманту было выдадзена шэсьць нумароў газэты, два зь якіх былі канфіскаваныя супрацоўнікамі міліцыі.

Трэба адзначыць, што на працягу больш за пяць год інфармацыйнае поле Магілёва было пазбаўлена незалежнай дэмакратычнай прэсы, і незалежная інфармацыя да людзей даходзіла толькі праз улётачныя інфармацыйныя акцыі, якія перыядычна праводзіліся дэмакратычнымі сіламі горада. Зразумела, што колькасьць іх павялічвалася перад выбарамі рознага ўзроўню, а пасьля гэтага людзі зноў пачыналі адчуваць інфармацыйны голад. Таму першапачатковай мэтай рэдакцыя газэты "НАШ Магілёў" паставіла сабе стварэньне перыядычнага незалежнага выданьня, якое б жыхары горада маглі атрымоўваць раз на месяц, бо з-за адсутнасьці сродкаў у рэдакцыі газэта ня можа выходзіць часьцей.

Дагэтуль у Магілёве існавалі дзьве незалежныя дэмакратычныя газэты: "Дэ-факта" і "Тыднёвік Магілёўскі". Першая была выключна расейскамоўная, другая выходзіла на тарашкевіцы (беларускай арфаграфіі, распрацаванай акадэмікам Бранісаўам Тарашкевічам – заўв. В.Н.). Іх можна было свабодна набыць у любым шапіку "Белсаюздрук", але пасьля выбараў 2001 года яны прыпынілі сваё існаваньне. "Тыднёвік Магілёўскі" ня быў бізнэс-праэктам, бо яго заснавальнікам было грамадзкае аб'яднаньне "Кола сяброў" і, дзякуючы намаганьням яго сяброў, газэта праіснавала да працягу амаль шасьці гадоў. Адна зь вялікіх праблем, зь якой сутыкнулася газэта "Дэ-факта", была нефармальная забарона Міністэрства інфармацыі на разьмяшчэньне рэклямы ў незалежных дэмакратычных газэтах, а гэта, як вядома, ільвіная доля прыбытку любога выданьня. Гэта і іншыя прычыны загубілі расейскамоўную незалежную газэту.

Газэта "НАШ Магілёў" у моўным пытаньні займае адпаведную пазыцыю, згодна зь якой тэксты артыкулаў друкуюцца на той мове, на якой іх піша журналіст, але існуе нефармальная парада, адпаведна зь якой газэта павінна імкнуцца да таго, каб яна выдавалася на ўжо знаёмай нам "тарашкевіцы". Таму, калі заглянуць у выданьне, то можна заўважыць там і расейскамоўныя артыкулы, і беларускамоўныя, напісаныя як на "наркамаўцы" (так называюць сучасныя правілы бел.мовы – заўв. В.Н.), так і на "тарашкевіцы".

Зразумела, што газэта не імкнецца на сучасным этапе атрымаць дзяржаўную рэгістрацыю, бо яна пачне адразу ўціскаць выданьне ў пэўныя рамкі, абмяжоўваць яго і не даваць магчымасьці галосна і аб'ектыўна данасіць інфармацыю да чытача, тым больш што наяўнасьць такой газэты ў сучасных палітычных умовах адразу паставіць крыж на яе разьвіцьці й існаваньні. Але, нягледзячы на гэта, калектыў рэдакцыі газэты "НАШ Магілёў" прытрымліваецца дзеючага заканадаўства, бо рана ці позна пачнуцца дэмакратычныя працэсы, і тады выданьню застанецца толькі легалізавацца і не наступаць нагамі на граблі, не ведаючы, што і як трэба рабіць згодна з законам. Ня так даўно праходзіла перарэгістрацыя выданьняў, у тым ліку пазасталых недзяржаўных, і тыя газэты, якія мелі ў сябе грамадзка-палітычныя рубрыкі, атрымоўвалі неафіцыйную параду адмовіцца ад іх, а ў адваротным выпадку, калі яны не прыслухаюцца прапановы, то не пройдуць дзяржаўную перарэгістрацыю. Наша газэта – гэта якраз-такі тая газэта, якая і называецца грамадзка-палітычнай.

Выданьне распрацоўвалася не як газэта нейкай палітычнай сілы, а як незалежная газэта, якая будзе аб'ектыўна данасіць інфармацыю да грамадзян пра тыя ці іншыя падзеі, якія мелі ці маюць месца ў горадзе і ў краіне.

Адным з асноўных партнэраў газэты зьяўляецца Магілёўская гарадзкая кааліцыя дэмакратычных сілаў, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі шасьці дэмакратычных партыяў і шасьці найбольш уплывовых грамадзкіх аб'яднаньняў горада.

Кожны ахвотнік можа дасласць артыкул у газэту, які на конкурснай аснове будзе разгледжаны ў параўнаньні з астатнімі дасланымі артыкуламі. Найбольш цікавыя ўбачаць сьвет на старонках газэты "НАШ Магілёў".

Кожны ахвотнік можа дасласць свае заўвагі на электронную адрэсу. Аднойчы, у спэцыяльным выпуску, які быў прысьвечаны вынікам выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў, былі пакінуты тэлефон старшыні выканкама Магілёўскіх дэмакратычных сілаў Алеся Сілкова. Першыя, хто яму патэлефанаваў – былі супрацоўнікі КДБ, якія запрасілі яго на прафілактычную размову. Потым на ягоны тэлефонны нумар пачалі тэлефанаваць простыя грамадзяне, якія выданьня. Пасьля канфіскацыі першага нумара супрацоўнікі пракуратуры хацелі ўзбудзіць крымінальную справу за абразу прэзідэнта, бо Аляксандар Рыгоравіч у адным з артыкулаў нейкага Вітольда Няўрыды "Прафэсыя апазыцыянэр" фігураваў як Лука, але ў сувязі з тым, што гэта быў гумарыстычны артыкул, справу вырашылі пакуль не ўзбуджаць.

30 сакавіка 2007 года павінен быў адбыцца суд на Сяргеем Лапуціным, які ў суботу 24 сака-

З Днём Волі цябе, братка!



НАШ Магілёў

Незалежнае грамадзка - палітычнае выданьне Горада

Сябры рэдакцыі пастаянна павышаюць свой прафэсыйны ўзровень. Значна палепшыўся дызайн выданьня ў параўнаньні зь першым нумарам, газэта перайшла з фармату А4 на А3, палепшылася якасьць падаваемага матар'яла ў артыкулах, і спрасціліся шляхі пошуку інфармацыі, бо ўжо пачала стварацца пэўная сетка так званых "крыніц інфармацыі", якія адразу паведамляюць аб нейкіх новых падзеях і фактах, якія мелі месца ў жыцьці нашага горада і даюць свае камэнтары. Зараз рэдакцыя газэты "НАШ Магілёў" праводзіць цыкл сэмінараў пад назвай "Школа вельмі маладога журналіста", якае дае магчымасьць людзям, якія цікавяцца журналістыкай, дазнацца аб іе асновах і ў далейшым далучыцца да працы рэдакцыі. У якасьць трэнераў запрашаюцца вядомыя журналісты і праваабаронцы горада.

Наладжана зваротная сувязь. выказваліся з падтрымкай і згаджаліся з тым, што выбары былі сфальсіфікаваныя, і толькі адна старшыня выбарчай камісіі выказала свой пратэст і нязгоду з тым што было напісана ў артыкуле і сказала, што выбары прайшлі сумленна і без парушэньняў, у чым, зразумела, і сумняецца як рэдакцыя газэты "НАШ Магілёў", так і ўсе прадстаўнікі дэмакратычных сілаў горада.

Наладжана сістэма распаўсюду выданьня, аб якой, зразумела, па аб'ектыўных прычынах я не магу распавесьці больш падрабязна. Адбываюцца пакуль і праколы, аб чым сьведчаць дзьве канфіскацыі наклада: першага нумара колькасьцю – каля 400 асобнікаў і шостага – колькасьцю 3 200, замест пазначаных і дазволеных сучасным заканадаўствам 299.

Галоўны рэдактар Андрусь Воўкаў мае афіцыйнае папярэджваньне ад Магілёўскай абласной пракуратуры за распаўсюд віка на Магілёўскім аўтавакзале быў затрыманы з накладам незарэгістраванай грамадзка-палітычнай газэты "НАШ Магілёў". Яму давялося правесьці ў Ленінскім РАУСе Магілёва некалькі гадзінаў, пасьля чаго ён быў адпушчаны, а наклад газеты быў сканфіскаваны.

Але ў сувязі з тым, што сьледзтвам так і не была ўстаноўлена асоба, якая перадавала наклад газеты "НАШ Магілёў" з Менску ў Магілёў суд быў адменены, а наклад газэты застаўся сканфіскаваны і яго ўжо, на вялікі жаль, зьнішчылі. Наклад быў прысьвечаны падзеям 25 сакавіка – Дню Волі.

Газэта "НАШ Магілёў" разлічана на шырокую мэтавую групу і пазыцыянуе дэмакратычныя каштоўнасьці, Эўрапейскую культуру і Правы чалавека на мясцовым узроўні. Сярэдні наклад выданьня вагаецца ад 1 500 да 10 000 асобнікаў.

Мовай тагачаснай кампартыі і мовай навукі была таксама "великая и могучая" руская мова. Пасля вайны назіраецца жвавая ўрбанізацыя. З 1959 па 1999 год прырост гарадскога насельніцтва склаў 25%. Сяляне перабіраюцца ў гарады, дзе паралельна з урбанізацыяй ідзе індустрыялізацыя: будуюцца ўсё новыя і новыя заводы, фабрыкі, прадпрыемствы. У параўнанні з вёскай адбываецца значнае паляпшэнне ўмоваў жыцця: цёплая кватэра (хай сабе часам і маленькая), каналізацыя, вадаправод, моцна развітая сістэма камунікацый (грамадскі транспарт, тэлефон, газеты, тэлебачанне), наяўнасць сферы абслугоўвання (усё знаходзіцца побач і цырульня, і крама, і пошта). У беларусаў руская мова вызывае асацыяцыю з навукай, прагрэсам, мадэрнам. Тым больш, што на тэрыторыю Беларусі пачынаюць прыязджаць спецыялісты з розных куткоў СССР (пераважна з Расеі), якія не валодаюць беларускай мовай і не імкнуцца яе вывучаць, бо моваю міжнацыянальных зносінаў сярод народаў СССР становіцца руская мова. Трэба яшчэ сказаць, што руская мова з'яўляецца славянскай мовай і мае шмат агульных асноваў і словаў з беларускай мовай, таму беларусам не складала вялікай цяжкасці за адносна невялікі перыяд перайсці на яе, адмовіўшыся ад свае беларускай. Трапіў у вертыкаль улады беларус, учарашні селянін, быў абавязаны сістэме за тую магчымасць знаходзіцца ў ёй і весці пакорлівы лад жыцця. Нацыянальныя пытанні не ўздымаліся да сярэдзіны 80-х гадоў ХХ-га стагоддзя, бо на Беларусі проста не было свае нацыянальнае эліты, якая на стадыі свайго фармавання была вынішчана ў даваенныя і пасляваенныя гады.

Аднолькавыя алфавіты збліжаюць мову. Беларускі алфавіт ад рускага адрозніваецца толькі некалькімі літарамі: і – "и", ў – в (у некаторых выпадках), "апостраф (')"- "ъ", адсутнасць літары "щ". Калісьці ў беларусаў адсутнічала літара "ф" і замянялася спалучэннем літар "хв", ці проста літарай "х". У якасці прыкладу можна прывесці, што сімвалам яднання кітайскай нацыі з'яўляецца іерогліф. Кітайцы не пераходзяць на алфавіт, бо адразу ўзнікне некалькі розных моваў і кітайцы з захаду не будуць разумець кітайцаў з усходу. А розныя мовы – гэта ўжо заяўка на розныя народы, ці нацыі, таму кіраўніцтва Кітая захоўвае гэты старажытны сімвал.

Да 1939 году на тэрыторыі Заходняй Беларусі (з 1921 года




знаходзілася ў складзе Польшчы) поруч з беларукай кірыліцай дзейнічала беларуская лацініца. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Ўсходняй, лацінскі шрыфт, беларусам, быў забаронены для ўжывання.

На тэрыторыі Беларусі, на момант распаду Савецкага Саюза, знаходзілася групоўка савецкіх войскаў колькасцю 250 000 чалавек. Зразумела, камандванне выкарыстоўвала расейскую мову і ў склад яе ўваходзілі прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў. Большая іх частка асела на Беларусі, не жадаючы прыстасоўвацца да таго, што ў краіне з набыццём незалежнасці пачала адраджацца беларуская мова.

Яшчэ адным важкім момантам з'яўляецца тое, што адсутнічае тэрыторыя (хай сабе і невялічкі раён) на якой насельніцтва цалкам размаўляла бы на беларускай мове. Такі, свайго роду цэнтр беларускасці, ад якога можна бы было адштурхнуцца ў рэалізацыі беларускамоўнай палітыкі, як гэта, напрыклад, ёсць у сучаснай Украіны.

### Трасянка!

"Беларусь пачынаецца са Смаленску" – такая прымаўка існуе ў рускіх. Звязана гэта з асаблівасцю гутаркі, якая не адпавядае нарматывам сучаснай рускай мовы. Калісьці Смаленск быў беларускім горадам і ваколіцы яго засяляліся беларусамі. У ваколіцах дасюль, як і ў беларускіх вёсках можна пачуць беларускую мову. А мовай гарадоў стала руская, ці яна толькі так засталася называцца? Бо нарматыўнай рускай мовай на тэрыторыі Беларусі карыстаюцца толькі 2-3% жыхароў, у пераважнай большасці якія эмігрывалі з суседніх краінаў, і якія яшчэ не паспелі адаптавацца да сучаснай беларускай трасянкі. Трасянка – сучасная мова беларусаў, мова, на якой гаворыць 95% насельніцтва Беларусі. Трасянка – гэта беларускае слова і азначае яно помесь сена і саломы. Трасянка – гэта прадукт правальнай русіфікацыі краю, бо ў выніку навязвання адной мовы ўзнікла другая, і пры ўсім гэтым не знікла трэцяя. Асаблівасцю трасянкі з'яўляецца тое, што пры прасоўванні з Усходу Беларусі на Захад яна абрастае ўсё большай і большай колькасцю беларускіх словаў. Беларусы так і не прыстасаваліся да рускай фанетыкі, манеры правільна вымаўляць рускія словы, ставіць націскі і растаўляць фіналі. Беларусы таксама не прыстасаваліся і да польскай мовы. У выніку нарадзілася свайго роду польская трасянка, на якой гаворыць частка Беластоцкай

вобласці, Вільні і Віленшчыны.

Трасянка ўзнікла і ў Лафтгаліі, адной з правінцый сучаснай Латвіі, дзе ў Даўгаўпілсе (былым беларускім Друцку) паўстае новы этнічны цэнтр, які сваёй мовай амаль на 80% адрозніваецца ад сучаснай латвійскай. Гэта ўжо латвійская трасянка, якая ўзнікла ў выніку спалучэння беларускай і латвійскай моваў.

**Статыстыка!**

Згодна перапісу 1999 года на Беларусі пражывае 81,4% беларусаў, 11,37% рускія, 3,94% палякі, 2,36% украінцы, астатнія народы (татары, цыгане, габрэі і іншыя) складаюць менш 1% кожны. 82% беларусаў назвалі сваю родную мову беларускай, а 36,7% ад колькасці усяго насельніцтва Беларусі пазначыла ў анкетах, што размаўляе дома на беларускай мове.

**Ці гатовы?**

Час не стаіць на месцы, мяняюцца каштоўнасьці, хтосьці пачынае разумець больш, хтосьці пачынае па іншаму ставіцца да моўнай праблемы на Беларусі. 15 гадоў незалежнасці не прайшлі марна у свядомасці беларусаў. Узрастае свядомасць, асэнсаванне таго, хто я ёсць і адпаведна атаясамленне сябе з народам з якога выйшаў. З кожным годам "савецкіх" беларусаў становіцца ўсё менш і менш, але і беларускаму нацыяналізму сучасны рэжым не дае развівацца ў поўную сілу. Другая хваля беларусізацыя захлябнулася пасля рэферэндума 1995 года, але і яна не прайшла марна. Па тэлефоннаму галасаванню падчас тэлевізійнага ток-шоу "Выбар" з Ягорам Хрусталёвым, у 2005 годзе, на пытанне: "Ці патрэбна беларусам беларуская мова?" станоўча на гэта пытанне адказала 65% чалавек, ад прыняўшых удзел у



галасаванні. На наступны дзень галоўны рэдактар перадачы быў звольнены. У галаве людзей адбываюцца вялікія змены, людзі пачынаюць разумець, што нацыі ўласціва мова і што лепей сваё, чым чужое. Моладзь, якая адчула свабоду 19-25 2006 г. сакавіка на плошчы К.Каліноўскага атаясамляе новую свабодную Беларусь з беларускай мовай, яна кідае такім чынам свой пратэст і выклік сучаснаму рэжыму. Размаўляць па-беларуску становіцца модна, калі б толькі гэту палітыку падтрымлівала дзяржава, беларусы б даўно закрылі гэтую праблему і пачалі вырашаць іншыя...

**Наш прэзідэнт!**

Мова – гэта адзін з важкіх палітычны інструментаў, якім карыстаецца сучасны прэзідэнт Беларусі. Улаўліваючы кан' юктурную сітуацыю ў краіне і народныя настроі, ён застаецца прыхільнікам беларускай трасянкі, бо трасянка – гэта мова большасці. Як сказаў адзін дэпутат расійскай Думы, пасля выступу ў ёй А.Р. Лукашэнкі: "Ваш президент говорил по-белорусски, но я его понял".



# Крызіс публічнай сферы

Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі першае, што было зроблена ў публічнай сферы – гэта скасаванне прамых трансляцый пасяджэнняў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па тэлебачанні. Першы прэзідэнт зразумеў усю магутнасць улады СМІ і ўсю небяспеку, якая зыходзіла ад іх і вырашыў прыбраць іх да сваіх рук. Час ішоў: спачатку газеты выходзілі з белымі плямамі, потым некаторыя газеты пачалі зачыняцца і ў выніку, тое, што не было зачынена было выдалена з падпіснога каталогу і дзяржаўнай сеткі распаўсюду праз шапікі "Белсаюздрук". Гэта адразу ж сказалася на колькасці тыражу незалежных выданняў. Паралельна з закрыццём газет найбольш зарваўшыяся журналісты праводзілі свае часы ў пастарунках, некаторыя з іх адбывалі пакаранне на двух гадах хіміі, а самыя небяспечныя з іх зніклі, як гэта адбылося з аператарам ОРТ Зміцерам Завадзкім, ці гінулі пры нявысветленых абставінах, як гэта было з Веранікай Чаркасавай, карэспандэнтам газеты "Салідарнасць" і Васілём Гроднікавым, карэспандэнтам газеты "Народная Воля". А афіцыйны бок маўчаў і ўсялякім чынам выкручваўся, спрабуючы паказаць, што не мае аніякіх дачыненняў да падзей, якія адбываліся з найбольш актыўнымі беларускімі журналістамі і спрабаваў ухіліцца ад пытанняў звязаных са следствам гэтых крымінальных спраў.

За 12 гадоў панавання пана

Лукашэнкі на чале нашай дзяржавы грамадства пачало дзяліцца на "сваіх" і "чужых", на "чэсных" і "нячэсных", на "свядомых" і "несвядомых", на "адмарозкаў" і "правільных". Калісьці адзіны неканфрантуючы народ апынуўся па розныя бакі барыкадаў, з рознымі сімваламі і каштоўнасцямі. Пан Лукашэнка напэўна незнаёмы з філасофскімі творамі Юргена Хабермаса ў галіне публічнасці, згодна якому ўсе праз кансенсус павінны прыходзіць да нейкай адной думкі і, напэўна, не чытаў Шанталь Муфф, якая выказвалася за "Аганістычную мадэль дэмакратыі", згодна якой адбываецца дэмакратычная канкурэнцыя ідэй, а не антаганістычную, якая грунтуецца на варожым супрацьстаянні. Таму ягоныя метады паразумення дэмакратыі застаюцца на ўзроўні часоў Савецкага Саюза, дзе ў народа не было выбару і народ мусіў прытрымліваціца пазіцый адзінай "правільнай" камуністычнай партыі.

З цягам часу "правільныя" выціснулі ўсіх "няправільных" з публічнай сферы, таму і немажліва сустрэць сярод прадстаўнікоў ураду ці дзяржаўных журналістаў апазіцыянераў, ці людзей, схільных да лібералізацыі, бо любы няправільны крок з іхняга боку будзе расцэньвацца як здрада, а гэта можа мець свае наступствы і кожны можа апынуцца ў лагеры "адмарозкаў". Улада пераўтваралася ў функцыянераў, выканаўцаў без значнай палітычнай пазіцыі, людзей якія не нясуць аніякіх каштоўнасцяў і якія падуладныя і адказныя перад адзіным "правільным" беларускім палітыкам Лукашэнкам.

Улада супрацьпаставіла сабе апазіцыю і адышла ад народа, паступова адгарадзіўшыся недасягальнай агароджай. І гэта не пустыя словы. Колькі людзей ведае хто іх дэпутат на мясцовым узроўні, хто стаў дзякуючы ім дэпутатам парламенту і як знайсці сваіх "народных" абраннікаў? Адбыўся разрыў камунікацый, дзе кожны пачаў жыць сам па сабе. Замкнулася не толькі ўлада. Такі лёс напаткаў і дэмакратычную апазіцыю, якая па меры разрыву камунікацый таксама замкнулася ў сабе і стварыла сваю супольнасць, са сваімі няпісанымі законамі, прынцыпамі і каштоўнасцямі. А паміж імі застаўся кінуты беларускі народ. У апазіцыі ўзнікла пытанне: "Як выжыць?", і яна кінулася займацца толькі гэтаю справаю, а ўлада ў гэты час паставіла для сябе іншае пытанне: "Як захаваць сябе і не падпусціць да ўлады іншых?"

І першыя і другія, у выніку сваіх разборак, забыліся на народ, які перыядычна толькі і выкарыстоўваецца імі як разменная манета. У выніку замкнутасці першых і другіх, і адсутнасці камунікацый паміж супрацьлеглымі бакамі на ўзроўні публічнага дыскурса, сфарміраваліся кланы, якія зацікаўлены ў дзеючай сітуацыі: першыя – на змену ім ніколі не прыйдзе ненадзейны апазіцыянер, бо кантралююцца ўсё ад прызначэнняў на вядучыя пасады да вынікаў галасавання як у мясцовыя Саветы так і ў парламент; другія – не хочуць дзяліцца сваімі "грантамі" (адзінай магчымасцю заробіць грошы ў апазіцыйным асяродку) і выжываюць толькі дзякуючы таму, што апілююць парушэннямі правоў чалавека і адсутнасцю дэмакратыі, бо большасць перадавых краін свету ўсё яшчэ стаіць на прынцыпах дэмакратычных каштоўнасцяў і жадае каб гэтыя каштоўнасці распаўсюджваліся. А ўрад Беларусі не можа пайсці на такі адчайны крок, бо прыняўшы гэтыя каштоўнасці ён адразу стане іх закладнікам і мусіць здзяйсняць агульнапрынятыя законы, дзе сфера публічнасці з'яўляецца адкрытай і канкурэнцыя адбываецца на ўзроўні ідэй. Урад баіцца канкурэнцыі, інавацый, новых ідэй і людзей, якія нясуць гэтыя ідэі.

Такім чынам пачынаючы з 1996 года, пасля канстытуцыйнага перавароту, у краіне пачаў фармавацца новы клас – вертыкалаў-бюракратаў, лагодных і маўклівых. Клас, які за сваю дагадлівасць здолеў атрымаць доступ да шматлікіх дзяржаўных рэсурсаў і выкарыстоўваць іх. Таму ў сучасным грамадстве найважнейшую ролю адыгрываюць не ўласныя здольнасці, а сувязі, ці "падвязкі" як кажуць у народзе, дзякуючы якім можна дасягнуць запланаваных мэтаў. Народ не можа дастукацца да ўлады, судзіцца з яе прадстаўнікамі, стаць яе прадстаўніком, бо доступ туды абмежаваны, неабходная інфармацыя не даецца, а кінуты кліч з часам распушчаецца ў дзяржаўных калідорах, вялікай колькасці нікому непатрэбных паперак – адпісак, чыноўнікаў, якія адрасуюць цябе адзін да аднаго, ствараючы пры гэтым замкнутае кола, якое немажліва разарваць і вырашыць набалеўшыя пытанні. Народ не можа цалкам падтрымаць і апазіцыйную эліту, бо аказваецца сярод іх ёсць і "левыя", і "правыя", і яшчэ нейкія "цэнтрысты" якія не прадстаўляюць адзінай сілы і распыляюць іх на спачатку ўнутрыпартыйную барацьбу, потым міжпартыйную і ў фінале міжасабовую ў барацьбе за званне "лідэра аб' яднаных дэмакратычных сіл", не разумеючы прынцып сфармаваны яшчэ Аляксандрам Македонскім "Падзяляй і ўладар!". Гэты прынцып добра зразумеў другі Аляксандр, той што Лукашэнка. Ён добра гэта ведае і кантралюе сітуацыю і будзе панаваць да тых часоў пакуль супраць яго не паўстане адзіная маналітная сіла, якая будзе складацца як з прадстаўнікоў апазіцыйнай эліты, так і з простых рабочых, інтарэсы якіх таксама будуць прадстаўляць апазіцыйныя сілы.

***Ян Чыгірдот***

Вітольд Няўрыда

# Савецкая Беларусь – гэта Беларусь сёння!

***Для таго, каб зразумець, у якой краіне мы жывем, неабходна выехаць за мяжу, для таго, каб можна было параўнаць становішча, у якім знаходзіцца наша краіна, і як жывуць суседзі. Калі чалавеку няма з чым параўнаць – ён параўноўвае часы, якія былі, і якія ёсць зараз; калі ёсць, то ён робіць адпаведныя высновы. Немажліва зразумець сістэму, будучы яе механізмам. Каб зразумець яе – трэба выйсці за яе межы.***




Беларусь – краіна блакітных азёраў, зялёных лясоў і шматлікіх балотаў, сэрца Еўропы. Менавіта тут назіраецца сутыкненне супрацьлеглых культур заходняй і ўсходняй, сутыкненне рэлігій: каталіцызма і праваслаўя, менавіта тут праходзяць шляхі, якія звязваюць усе бакі сьвету. Тут нават Прыпяць і Дняпро нясуць свае воды ў Чорнае мора, а Нёман і Заходняя Дзвіна ўпадаюць ў Балтыйскае мора. За апошнія 800 гадоў, па сведчаннях гісторыкаў, войны на Беларусі адбываліся ў сярэднім адзін раз на кожныя дзесяць гадоў! Такой колькасці ваенных канфліктаў не бачыла ні адна краіна Еўропы, таму і замацавалася за Беларуссю слова "шматпакутлівая"...

15 гадоў мы маем сваю незалежнасць, якая зьнянацку звалілася на галовы нашых кіраўнікоў. 15 гадоў мы ўпісваем сваё слова ў сусветную гісторыю і вядзём незалежную палітыку, але 12 апошніх гадоў палітыка нашага ўраду яшчэ і з'яўляецца палітыкай, накіраванай супраць беларускага народу.

Атрымаўшы незалежнасць, мы не атрымалі свабоды! Смешна, але факт! Няма ўжо польскага жонду на беларускіх землях, няма рускай царскай улады улады, няма кіруючай камуністычнай партыі! Але няма і свабоды! Беларусы забыліся, што гэта такое, і не ацанілі Богам дадзены падарунак. Цяпер ёсць прэзі-



дэнт-дыктатар, які самастойна вырашае лёс нашай краіны, і які не лічыцца з дэмакратычнымі прынцыпамі і шасцісотгадовымі гістарчнымі традыцыямі на беларускіх землях.

Беларускі феномен – толькі так можна акрэсліць палітычную сітуацыю, ў якой апынулася сучасная Беларусь. Менавіта Беларусь, па словах першага прэзідэнта А.Р. Лукашэнкі, з'яўляецца аскалёпкам вялікай імперыі, якая яшчэ не так даўно займала 1/6 частку сушы, выступала полюсам ЗША і называлася СССР.

Так сталася што Беларусь аказалася самай савецкай рэспублікай са складу былых рэспублік СССР, а беларусы апынуліся рускімі яшчэ больш, чым самі руская, спрабуючы прыхаваць свой комплекс непаўнавартаснасці, бо за апошнія 300 гадоў іх лічылі то недаробленымі палякамі, то непаўнавартаснымі рускімі, а запісаўшы ў савецкі народ, яны ўвогуле пазбавіліся ўласнай самаідэнтыфікацыі, бо дагэтуль яшчэ больш-менш свядомыя людзі называлі сябе "тутэйшымі". Напэўна, толькі беларусы могуць займаць першыя месцы на алімпіядах па рускай мове ў Расеі!

52% беларусаў, па выніках апошняга сацыялагічнага апытання, на сучасны момант лічаць сябе савецкімі людзьмі, што і з'яўляецца нагодай для ўлады гуляць на гэтым, настальгуючы па былых часах, па батону за 20 капеек, па каўбасе за 2 рублі 20 капеек і газіроўцы за 2 капейкі, спрабуючы вярнуць беларусам тое, што ў іх забралі, дзе былі ўсе аднолькава бедныя, шэрыя і маўклівыя.

Толькі ў гэтай краіне ўрад нішчыць сваю гісторыю, родную мову, самабытную культуру, здзекуецца над нацыянальнай сімволікай і не шануе нацыянальных герояў. Нездарма ж быў адменены ордэн Кастуся Каліноўскага як вышэйшая дзяржаўная ўзнагарода, не проста так жа не даюць у некаторых бібліятэках творы Васіля Быкава, не спантанна ж гісторыю Беларусі пераклалі на рускую мову, а родны бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" апаганілі і прыраўнялі да прафашысцкай

сімволікі, забыўшыся на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Беларускай Народнай Рэспублікі, дзе яны былі нацыянальнымі сімваламі нашых продкаў.

Нацыянальная дзяржава ці Савецкая рэспубліка? Дылема, якая стаяла перад беларускім народам, і пакуль ён вагаўся і чагосьці чакаў, самыя спрытныя вырашылі, што лепей другое, і пачалі рэанімацыю не так даўно забытага.

Бяда таварыша Лукашэнкі ў тым, што ён проста не ведае іншых метадаў кіравання. Ён проста не ведае, як не быць не дыктатарам, бо не можа ні з чым параўнаць, а, як вядома, усё пазнаецца ў параўнанні. Адсюль вынікае і сучаснае палітычнае становішча посттаталітарнай дзяржавы. Таму нездарма Беларусь час ад часу называюць “Беларускай калхознай рэспублікай”, бо кіруе наш прэзідэнт па-савецку, па-калгаснаму, як умее. Аўтарытарызм – гэта пераходны этап паміж таталітарызмам і дэмакратыяй. Гэта якраз той стыль пераходнага кіравання, якім карыстаецца прэзідэнт, спрабуючы даць мнімую стабільнасць беларускаму народу, як гэта было ў часы брэжнеўскага застою. Але беларускі аўтарытарызм не прыбывае тут у чыстым выглядзе, ён дапаўняецца і ўпрыгожваецца сваімі мясцовымі асаблівасцямі і трансфармуецца ў мясцовы “лукашызм”.

Але якая можа быць стабільнасць пры аўтарытарызме Лукашэнкі, калі па сваёй прыродзе аўтарытарызм з’яўляецца самай няўстойлівай і самай нестабільнай формай кіравання? У параўнанні з ім дэмакратычныя і таталітарныя грамадствы з’яўляюцца ўстойлівымі, а ў аўтарытарных дзяржавах стабільнасць рушыцца са зменай дыктатара. Усё, што не з’яўляецца арыгіналам, з’яўляецца падробкай, а падабенства на арыгінал заўжды ніжэйшай якасці і выклікае толькі ўсмешку. Усё гэта мы ўжо праходзілі. Шмат хто з нас прахадзіў у акцябратах, шмат хто быў піянерам і камсамольцам, а самыя прагрэсіўныя 772 тыс. беларусаў здолелі пабываць у шэрагах КПБ, якая растаяла пасля краху вялікай імперыі і падзей ў Белавежскай пушчы. Зараз на змену акцябратам прыйшлі піянеры, на змену піянерам і камсамольцам – БРСМ-аўцы, на змену камуністычнай партыі, як не жалобна – дзеючая вертыкаль улады, якая вельмі добра займае яе нішу і амаль цалкам выконвае яе функцыі. Камуністычная ідэалогія змянілася дзяржаўнай ідэалогія, якая была злеплена з частак палітaлогіі, філасофіі, гісторыі, сацыялогіі і інш. навук і стала абавязковай для ўсіх. Гісторыя беларускага народу, згодна з сучаснай ідэалогіяй, пачалася бадай толькі пасля Другой сусветнай вайны. Толькі незразумела, як гэта народ-пераможца пасля вайны здолеў згубіць трэцюю частку сваіх этнічных тэрыторый? Бюракратычны апарат вырас у некалькі разоў у параўнанні з часамі Савецкага саюзу, колькасць міліцыянтаў у краіне вырасла ў 5 разоў!

Каля 90% уласнасці ў краіне з’яўляецца дзяржаўнай, а бізнэсам можна займацца толькі тым, каму дазволена, таму сітуацыю ў сектары беларускай эканомікі называюць “бюракратычным капіталізмам”, тым больш што былая камуністычная эліта нікуды не знікла, а, дзякуючы сваім сувязям, здолела трансфармавацца ў бізнэс-эліту, якая своечасова адшпільвае частку сваіх прыбыткаў і трымаецца на плаву. На Беларусі, у адрозненне ад іншых савецкіх рэспублік, не адбылася змена палітычных элітаў! Проста былая частка наменклатуршчыкаў мадэрнізавалася і перадстала ў новым выглядзе. Беларуская стабільнасць – гэта міф, на якім трымаецца сучасная прапаганда. Міф, які з’яўляецца толькі міфам і не вытрымлівае аніякай крытыкі. Толькі штогадовыя датацыі ў беларускую эканоміку ў выглядзе некалькіх мільярдаў даляраў з боку Расеі дапамагаюць трымацца беларускаму рэжыму. На жаль, Беларусь з’яўляецца не апошняй дыктатурай у Еўропе. Яе ўсходні сусед убабраў у сябе яскравы прыклад беларускага рэжыму і паступова пераймае яго, тым больш што існуе генетычная памяць у рускага народу да такога метаду кіравання, бо некалькі стагоддзяў ён знаходзіўся пад панаваннем мангола-татарскага іга. Пакуль існуе дыктатура на Усходзе – падтрымка дыктатуры ў цэнтры Еўропы будзе працягвацца. Расеі вельмі выгадна весці размовы з беднымі дзяржавамі, карыстаючыся прынцыпам “Чым бяднейшая краіна, тым прасцей дыктаваць умовы”, што яна і робіць на практыцы, ставячы



Беларусь амаль на калені новымі коштамі на газ, выбіваючы тым самым для сябе неабходныя прэферэнцыі.

Што змянілася з савецкіх часоў на Беларусі? Людзі сталі лепш апранацца, ездзіць на прыгожых машынах, хадзіць бясконца па крамах, маючы вялізарны выбар, але часам не маючы неабходных сродкаў для існавання. Што нас тым моцна звязвае з Расеяй і СССР? Напэўна, ужо толькі руская мова, на якой гавораць значная частка беларусаў і то не ў арыгінале, дзе можна ўжо смела ўводзіць свае асаблівыя правілы, словы, націскі, наблізіць фанетыку да арыгіналу і абазваць яе рускай мовай на Беларусі!



У эканамічным дабрабыце лідэрам з'яўляецца наша сталіца. Тут больш эканамічнай свабоды, тут больш магчымасцяў зарабіць нармальныя грошы для жыцця, тут значна чысцей пад'езды і вуліцы, тут цяжка сачыць за ўсім, і таму ўлада спраўе знішчыць крытычную да рэвалюцыйных выступаў абстаноўку нейкімі эканамічнымі палёгкамі, каб народ не меў бунтарскіх настрояў. Горш абстаіць справа ў абласных цэнтрах. Тут выстаўленая адпаведная планка ў заробках, якая штучна стрымліваецца дзеля таго, каб не было вялікіх разбежак паміж рознымі прадпрыемствамі, і людзі не маглі перасокчыць гэтую планку, нават змяніўшы месца працы. А што казаць пра маленькія гарадкі, дзе на некаторых прадпрыемствах рабочыя атрымоўваюць заробкі ў 100-150 тыс. рублёў? Гэта іхняя планка, якую ўжо ім амаль немажліва пераадолець. Уся краіна знаходзіцца ў загнаным становішчы. Дзяржава баіцца дапусціць расслаенне грамадства, бо, расслаіўшыся, кожная група ці клас пачнуць сябе па-рознаму паводзіць і займацца палітыкай,Але нехта забыўся простую формулу: без багатых не можа быць моцнага сярэдняга класу! Напэўна, гэта дзяржава і хоча не дапусціць!

Ёсць два ворагі ў сучаснага ўраду: вораг знешні – ЗША, вораг унутраны – апазіцыя. Прычым як першым, так і апошнім прыдзяляецца шмат тэлевізійнага часу для дыскрэдытацыі іх дзеянняў. БНФ – стала самым мацерным словам, апазіцыянер – дыягназам, слова "рок" асацыюецца з наркотыкамі і алкаголем, а слова "грант" стала заробкам за які змагаюцца апазіцыянеры.

На цэнтральных плошчах гарадоў да сіх пор стаяць помнікі правадыру ўсіх народаў – У.І. Леніну. Каля школы міліцыі ў Магілёве ўсталяваны бюст "жалезнаму Феліксу", адраджаючь помнікі Сталіну. Ну чым не Савецкая Беларусь?

Беларускі народ у чарговы раз дзеляць на сваіх і чужых, як гэта было ўжо не раз пры вайне 1812 году, калі частка беларусаў ваявала за Напалеона, а частка ўваходзіла ў склад царскай арміі, войнах 1914 і 1941 гадоў, дзе па розныя бакі франтоў ваявалі нашы бацькі, дзяды, прадзеды – беларусы, з якіх толькі невялікая частка ваявала за адраджэнне беларускай дзяржавы...

Зараз "ракавай пухлінай" беларускага грамадства з'яўляецца класічная беларуская апазіцыя, якая з'яўляецца носьбітам дэмакратычных ідэй і каштоўнасцей, але якая кожны дзень размазваецца і дыскрэдытуецца дзяржаўнымі СМІ. Якая, на жаль, ужо анікім не прадстаўлена ў парламенце, якая не прадстаўлена ва ўладных структурах і якая паступова пераўтвараецца ў маргіналаў ці ідэйных дэсідэнтаў, якія спрабуюць шукаць праўду.




Беларуская праваслаўная царква заняла лагодную пазіцыю да дзеючай улады, напэўна, матывуючы гэта тым, што "улада ад Бога". Таму і з'яўляецца праваслаўе на Беларусі дзяржаўнай рэлігіяй... Калі ж твая пазіцыя разыходзіцца з дзяржаўнай лініяй, як гэта было з Беларускай Аўтакефальнай царквой, то закладзеныя падмуркі царквы нішчацца бульдозерамі, ці каталіцкія ксяндзы прадстаюць прад судом! Дзяржава раздае манаполіі: калі рэлігія, то праваслаўе, калі партыя, то камуністы, калі ўвесь "трэці сектар", то псеўдаарганізацыя БРСМ, калі Саюз беларускіх пісьменнікаў, то толькі дзяржаўны, калі Саюз палякаў на Беларусі, то толькі з прыслужнікамі ўлады і г.д.

Сучаснае становішча нагадвае Беларусь Савецкую, а не Беларусь еўрапейскую і зменіцца яно толькі са зменай улады. Але наступная ўлада павінна складацца не з маргіналаў, а быць камандай прафесіяналаў, дзе б кожны быў адказны за сваю працу і працаваў дзеля таго, каб зрабіць з Беларусі сучасную дэмакратычную краіну.

Николай Александров

# Десять газетных лет с правом переписки

Так уж сложилось, что в наше время в Беларуси сосуществуют рядом неофициально два медийных праздника: 3 мая – Международный День свободы печати, провозглашенный ООН в декабре 1991 года, и 5 мая – традиционный День печати, ведущий начало из времен СССР, когда пресса была объявлена Иосифом Сталиным "главным идеологическим оружием партии".



Бедная моя душа разрывается между обеими этими виртуальными датами: живу в двух пространствах времени, обремененный грузом лет, любя и прошлое, и нынешнее. В то же время разум мой, впитавший немало информации, гнусно шепчет: а откуда берет начало второй праздник прессы? Когда-то нам внушали, что это дата рождения газеты "Правда", созданной Лениным, но, как ныне выяснилось, это издание первоначально склепал Троцкий, причем в иные сроки и даты. К тому же "правдивое" название и прежде носили некоторые российские издания. Самая первая "Правда" выходила в Одессе ежедневно с 1 октября 1877 года по 28 октября 1880 года. Была прекращена по распоряжению одесского генерал-губернатора. Чем-то она ему не угодила. Следующая "Правда" выходила еженедельно в Женеве с 8 августа 1882 по 13 февраля 1883 года. Редактором ее был некто И. Климов, агент монархической организации "Священная дружина", а сама эта издательская афера, как позже выяснилось, была затеяна с провокационными целями, чтобы скомпрометировать зарубежных социалистов. Третьей "Правдой" в этой плеяде был еженедельный журнал, выходивший в Петербурге в 1888-1894 г.г. и рекламировавший себя как "орган исключительно политический, истинно русского направления". Так что Троцкий был неоригинален, рассчитывая на раскрученном названии заработать политический капитал.

Ну да ладно, в наших датах много несуразиц – копни хоть 23 февраля, 8 марта, 7 ноября, 3 июля... Призови их отменить – народ обидится, оставшись без дополнительного повода поднять чарку. Поэтому – да здравствует День печати, впечатанный в сердца тех, кто изучал краткий курс партийно-советской журналистики на журфаках, кто распевал про "трое суток не спать", кто с искренним цинизмом удерживал своим талантливым трёпом оползень обреченной системы.

Но давайтека вернемся ко временам нынешним. Хочу вам сообщить, что 2 мая у "Брестского курьера" исполняется своеобразный юбилей: ровно десять лет назад в этот день нашей газете было вынесено официальное предупреждение от одной из высоких инстанций, реально грозившее закрытием. Нам вменялось в вину "нагнетание социальной и национальной напряженности", а также "разглашение финансовых и промышленных секретов государства". До сих пор не пойму, что мы там нагнетали и разглашали...

Между прочим, ныне существующая практика предупреждений СМИ один к одному скопирована из эпохи Александра II Освободителя. Но там нравы все-таки были полиберальнее – по случаям победы русского оружия (например, под Плевной) предупреждения СМИ аннулировались. Что любопытно, в ту пору для получения разрешения на издание газеты



или назначение редактора нужно было свидетельство благонадежности от полиции, теперь же требуется аналогичное согласование от местных органов власти, чтобы зарегистрировать новое издание в Министерстве информации РБ. По всему выходит, что свидетельство о благонадежности получить было гораздо легче, чем нынешнее согласование...

В тот послереферендумный 1997 год предупреждения негосударственным СМИ вообще сыпались густо, как при ковровом бомбометании. Газета "Свабода", достигшая тиража 90 тысяч экземпляров, имела к моменту своего закрытия в ноябре того года аж 9 предупреждений от Госкомпечати РБ! Последнее из них мотивировалось тем, что, дескать, в одной из публикаций проводилась параллель между 1937 годом и современностью. И газета эта с символическим названием – "Свабода" – оказалась первой добычей царской охоты, за которою в последующие годы последовала обширная череда трофеев, добытых и мытьем, и катаньем, – "Навіны", "Беларуская маладзежная", "Белорусская деловая газета", "Салідарнасць", "Фемида", "Курьер из Борисова", "Новая газета Сморгони", гродненские "Пагоня" и "Биржа информации" и еще добрый десяток изданий. Хотя в марте того же 1997 года президент А.Лукашенко сказал в интервью телевидению ВВС: "Даже если оппозиционные СМИ ведут себя крайне нецивилизованно, мы к ним не применяем никаких санкций, даже в суд их не ведем". А всего лишь через месяц его российский коллега Б.Ельцин заявил: "В российских средствах массовой информации высказывается озабоченность по поводу ситуации со свободой слова и печати в Беларуси. Эту озабоченность нельзя оставлять без внимания. Хочу заверить со всей определенностью: мы сделаем все, чтобы ценности демократии, свобода слова и печати стали общим достоянием Союза". А через пару месяцев он не пустил нашего президента в Липецк, рявкнув: "Пусть сначала освободит Шеремета!"

Увы, не получилось у Бориса Николаевича создать общее союзное пространство свободных масс-медиа. Сегодня этот вопрос уже и не ставится, перейдя в плоскость информационных разборок между Беларусью и Россией, отражающих более глубинные противоречия.

А у нас всё продолжается охота...

И скажите мне, уважаемые, неужели бы рухнул мир, если б негосударственные газеты в нашей республике могли нормально существовать и развиваться, как во всех цивилизованных странах? И не потому ли Беларусь загнала себя в капкан международной политической изоляции, что свобода слова оказалась в ней невостребованной государством?..

# Письмо в редакцию

***Должна быть честная конкуренция между всеми печатными изданиями, тогда и будет возможна критика не только сверху - вниз, но и снизу – вверх.***

Каждому поколению человечества, кажется, что время, в которое ему выпало жить – самое сложное. И если отбросить трагические моменты нашей родной истории и выбрать годы без революций и войн, то начало 21 века оказалось для нас самым спокойным. Основным стрессосоздающим моментом является конкурентная борьба. Она проникла всюду, даже в семью, изменив роль женщин и мужчин, изменив мир детства у детей. Все отвоёвывают своё право на достойное существование. Мы понимаем, что здоровая конкуренция – это двигатель прогресса, от этого никто и никогда не смог уйти. Не будь конкуренции, мы бы сейчас жили в раю вместе с Адамом и Евой. Но хочется, конечно, невозможного: чтобы в этой конкурентной борьбе использовались порядочные методы, без насилия.

Имея большой стаж работы и опыт жизни в разных социальных условиях, я неоднократно сталкивалась с «силовыми методами» в организации подписного процесса на газеты и журналы. Руководящая и направляющая рука чувствовалась всегда, слишком большое влияние оказывали средства массовой информации на умы людей. Вера в правду печатного слова, вера в честность и порядочность людей занимающихся выпуском газет и журналов сохранилась до



сих пор, особенно в старшем поколении. Интернет им не доступен, телевизор и привычка выписывать те или иные газеты и журналы – основное окно в мир.

В советское время КПСС контролировала, что выписывают её члены. Остальные могли выписывать, что хотели, лишь бы выписали, однако содержание изданий было всюду одно и тоже. Так и вырабатывалась та самая привычка выписывать газеты и журналы. Методы, как сейчас кажется, были тогда простыми и никем не скрывались.

Сейчас, так прямо и открыто, никто действовать не может: приходится оглядываться, что скажет по этому поводу мировое сообщество, ведь власть делает видимость демократии, а принудительные меры подписки никак не совпадают с принципами демократического государства. Поэтому приходится хитрить и маскироваться.

Например, работникам образования стали выплачивать по отдельной ведомости деньги в сумме 7500 белорусских рублей (90 000 в год) на приобретение методической литературы и подписку, за использование которых они должны отчитаться перед своей администрацией. Вроде бы ничего плохого в этом нет, правда непонятно, почему бы просто не увеличить зарплату учителям, чтобы они могли купить себе нужную литературу и выписать необходимые издания. Ведь в целом от этого государство только выиграло бы, получив информированного учителя. Деньги эти платят достаточно долго, но поскольку сумма мизерна то и контроль был слабым. Однако, когда её умножили на количество работающих педагогов в стране, то в целом сумма получилась не маленькая. При этом целевая выплата на приобретение литературы и подписку даёт право администрации контролировать их расход по своему усмотрению. И поэтому, как только объявляется подписная кампания, так и начинается давление на педагогов. При этом заставляют оформить подписку на определённые издания: из республиканских – «СоветскаяБелоруссия» и «Настаўніцкая газета», областная – «Заря». Произведя простой арифметический расчет, мы увидим, что в месяц подписка на вышеуказанные издания составляет более 25 000 белорусских рублей и в заявленную сумму 7500 рублей явно не укладывается. Правда, не все педагоги до такой степени закомплексованы, чтобы дословно выполнять все «указивки» сверху. Но большинство не желает доставлять «неприятности» ни себе, ни своему непосредственному начальнику и выписывает то, что приказали, сдавая при этом подписные квитанции на регистрацию. В результате вышеуказанные издания получают «фору» по сравнению с остальными изданиями.

Регулярно читая вышеуказанные издания, я знаю, что они интересны, многие статьи особенно по истории и краеведении в СБ открывают много нового в этой области. Интересные рубрики появились в «Заре» и «Настаўніцкай газеце». Но ни в одном издании я не нашла ни одного критического материала в адрес администрации района, области, министерства образования, правительства республики. Неужели наши руководители не делают ошибок? Судя по тому, как мы живём, делают. Но критические материалы можно прочесть только в адрес руководителей низшего звена из уст администрации. Я бы сказала, что вышеуказанные издания очень изящно обходят острые углы, присутствующие в нашей суровой действительности. Их балетные «па» наводят на мысль, что кто платит, тот и заказывает музыку... Но, дорогие мои, платим то мы! Почему же тогда «музыку» заказывает высокопоставленный дядя?! ных газетах, увидеть материалы на тему: почему так медленно в Министерстве образования разрабатываются нормативно-правовые документы, почему сначала издаются Указы, а после начинают думать, как их воплотить в реальную жизнь (проблема с чеками «Жильё», приватизация жилья без госактов на землю под многоквартирными домами, по продаже недостроенных жилых домов частникам через аукционы и т.д.). Кто нам объяснит, как может молодая семья за свою зарплату, и даже получив кредит в банке, за три года построить себе дом? Ни одного примера такого строительства в нашем небольшом городе я не знаю. Журналисты печатают в этих изданиях консультативные статьи, содержащие пересказ Указов, но более ничего не могут или скорее не хотят сказать, так как считают, что будет себе дороже. Но своим некритическим отношением к деятельности администраций всех уровней они не только нас, но и себя, своих близких загоняют в угол трудно решаемых, но для чего-то создаваемых сверху проблем.

Давно известно, что все люди ошибаются, не ошибается только тот, кто ничего не делает. Но ошибки надо знать, их надо вовремя исправлять.

К хорошей жизни человек привыкает легко, легко забывает о том, как живёт большинство граждан страны. И нашим руководителям надо напоминать, что они тоже не боги, а значит, ошибаются, и напомнить им об этом похоже сегодня могут только независимые, бескомпромиссные, а не «подкормленные» журналисты. Должна быть честная конкуренция между всеми печатными изданиями, тогда и будет возможна критика не только сверху – вниз, но и снизу – вверх.

***Любовь Щуцкая, 58 лет***

**Город Дрогичин**

